*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 33(141) ◆ 18 жніўня 1993 г. ◆ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***ВЫКАНКАМ БСДГ РАСПАЎСЮДЗІЎ ЗАЯВУ АБ ГРАШОВА-ФІНАНСАВЫМ СТАНОВІШЧЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ, У ЯКОЙ, У ПРЫВАТНАСЦІ, ГАВОРЫЦЦА:** «З-за кансерватыўнай гаспадарчай палітыкі ўрада эканоміка Рэспублікі Беларусь апынулася ў складаным крызісным становішчы... Як манапаліст на рэсурсы, Расія ніколі не ўлічвала інтарэсы Рэспублікі Беларусь ды іншых краін СНД. Яскравым пацвярджэннем гэтага з'яўляецца апошняя грашовая рэформа, калі без ведама і ўсялякай інфармацыі былі выведзены з абарачэння савецкія і расійскія грошы ўзору 1961—1992 гг... Пацярпелі нашы прадпрыемствы, у чарговы раз абкрадзены тысячы простых грамадзян, якія пазбаўлены магчымасці паехаць да родзічаў у бліжняе замежжа, у адпачынак, на лячэнне з чарнобыльскай зоны». У сувязі са становішчам, якое склалася ў Беларусі выканкам БСДГ прапануе на пачатку верасня склікаць нечарговую сесію ВС Рэспублікі Беларусь, дзе трэба разгледзець пытанне аб неадкладным уводзе сваёй нацыянальнай грашовай адзінкі.*

Расійскія пастаўшчыкі прыроднага газу запатрабавалі выплаты доўгу, які складае больш за 110 мільярдаў рублёў. Умовы Расіі даволі жорсткія: газ будзе пастаўляцца толькі пасля пагашэння ўсёй сумы доўгу. Пакуль што ўдалося адшукаць 10 мільярдаў рублёў. Які ўжо раз наш вялікі сусед выпрабоўвае нашу незалежнасць. Але як бы там ні было, пара ўжо звыкнуцца, што за тавар трэба своечасова плаціць.

***У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ** мясцовае акцыянернае таварыства «Фонд развіцця Магілёва» і адміністрацыя Кустанайскай вобласці Рэспублікі Казахстан шукаюць добраахвотнікаў для ўборкі цаліннага збожжа. У мінулым годзе беларусы папрацавалі ў Казахстане, але яшчэ і сёння з імі да канца не разлічыліся.*

ЯК ПАВЕДАМІЛА ГАЗЕТА «ЗВЯЗДА», «Народны рух Беларусі хоча зняць Шушкевіча, пакараць «белавежскіх змоўшчыкаў», стварыць Беларуска-Расійскую канфедэрацыю. Для гэтага ён арганізоўвае сваю парламенцкую фракцыю і ценявы кабінет». Але чаго можна чакаць ад НРБ, у які ўваходзяць Партыя камуністаў Беларусі, Славянскі сабор «Белая Русь», Саюз афіцэраў, ЛКСМБ, ветэранскія арганізацыі, таварыства «Полісьсе»?..

***У БЛІЖЭЙШЫ** час Беларусь пералічыць у ААН 3,5 мільёна долараў для пакрыцця свайго доўгу гэтай міжнароднай арганізацыі.*



27 ліпеня — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Сярод афіцыйных мерапрыемстваў гэтага свята было і ўскладанне вянкоў кіраўнікамі рэспублікі ў Курапатах, на месцы масавага знішчэння бязвінных людзей таталітарным камуністычным рэжымам.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. БЕЛІНФАРМ.

*Рэха*

## МЫ АДНОЙ ТАБЕ НАЛЕЖЫМ, ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ!

Ужо стала ўспамінам прабыванне на Беларусі ў якасці дэлегата Першага з'езда беларусаў свету, які арганізавала для беларусаў блізкага і далёкага замежжа Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Цэлы тыдзень мы, беларусы, адчувалі сябе сапраўды беларусамі, таму што ў нашым асяроддзі гучала родная мова: у гатэлі «Беларусь», дзе жылі дэлегаты, у аўтобусах, якія адвозілі нас на мерапрыемствы, у зале Вялікага тэатра оперы і балета, іншых месцах, дзе праводзілася работа з'езда. Было вельмі прыемна чуць мілагучную мову нашай Бацькаўшчыны з вуснаў беларусаў, якія прыехалі з Аўстраліі і ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі, Германіі і Бельгіі, Польшчы і Летувы, іншых краін. Але былі сярод дэлегатаў Першага з'езда беларусаў свету і такія людзі, якія не тое што не гаварылі па-беларуску зусім, але і не стараліся загаварыць на нашай мове — яны выкарысталі льготы аргкамітэта з'езда (бясплатны праезд у два бакі, бясплатнае 3-разовае харчаванне ў рэстаране гатэля «Беларусь», пражыванне ў 1—2-асабовых нумарах гатэля), каб «праветрыцца», «отдохнуть» — як заявіла мне адна кабета з Рэспублікі Крым, сказаўшы далей, што ёй няма ніякай справы ні да з'езда, ні да беларускай мовы, якую яна ўжо «паспела забыць і ўспамінаць яе нанова не збіраецца». На вялікі жаль, яна была не адзіная: у рэстаране «Беларусь» можна было бачыць гэтых так званых «дэлегатаў», але ў залах, дзе праводзіліся пасяджэнні, іх было не відаць,— у гэты час яны лёталі па менскіх крамах ці бавілі час у кампаніі сваіх менскіх сваякоў. Таму ў мяне ёсць адна прапанова на будучае: калі будзе ладзіцца Другі з'езд беларусаў свету, не трэба так шчодра раздаваць запрашэнні на ўдзел у з'ездзе ўсім, хто захацеў «на дурняк» пабываць у Беларусі. Дэлегатамі павінны быць толькі сумленныя, патрыятычна настроеныя сыны і дочкі нашай Бацькаўшчыны, якія жывуць за яе межамі. Канешне, папрок гэты — толькі ў адрас беларусаў блізкага замежжа, бо беларусы далёкага замежжа вельмі актыўна працавалі на з'ездзе. Сёння хочацца назваць некаторых з тых, з кім мне пашчасціла пазнаёміцца асабіста: спадар Ян Запруднік з ЗША — рэдактар газеты «Беларус», які паспяваў літаральна паўсюль, браты Алесь і Уладзімір Шэнкі з Аўстраліі, якіх многія тэлегледачы БТ змаглі ўбачыць на свае вочы ў «Панараме» 5 ліпеня, калі яны давалі інтэрв'ю, Сяргей Карніловіч з Кліўленда (ЗША), якога літаральна «разрывалі на часткі» і які ўсім стараўся нечым дапамагчы (11 ліпеня ён павёз у Пінск лекі, якія прывёз з ЗША). Увогуле такіх беларусаў, як Сяргей Карніловіч, сёння не так і шмат, калі не сказаць, што другіх такіх, як ён, няма...

Безумоўна, былі ў мяне сустрэчы з нашымі землякамі, якія жывуць і ў блізкім замежжы. Запамяталася чысцюткая беларуская мова Галіны Сівалавай з Вільні, Алеся Ядчанкі з Львова, Сержука Федарынчыка з Кіева, Алеся Пятруннікава з Мурманскай вобласці Расіі...

Удзельнічалі ў з'ездзе і шматлікія беларусы з Беларусі, якія пачуваюць сябе патрыётамі, у якіх таксама баліць душа за справы Адраджэння, за выжыванне нашай роднай мовы, за лепшае жыццё. Падумалася, што мы ўсе, адкуль бы хто ні прыехаў, належым ёй адной — нашай маці-Беларусі.

На заканчэнне свайго допісу хочацца шчыра падзякаваць спадарынь Ніну Петухову, Людмілу Пеціну, Ганну Сурмач, якія зрабілі ўсё, каб мы пачувалі сябе на Радзіме як мага лепш, як сапраўды на сваёй Бацькаўшчыне. Гэтаксама вялікі дзякуй усяму аргкамітэту за цудоўныя падарункі: кнігі мастацкай літаратуры, падручнікі па беларускай мове і літаратуры, гісторыі Беларусі, насценныя календары, значкі, на якіх выява — сімвал Першага з'езда, што будзе яшчэ доўга напамінаць нам аб ім.

Безумоўна, было некалькі хібаў, але мы цудоўна разумеем, чаму, і таму ў адрас аргкамітэта няма абсалютна ніякіх нараканняў.

Яшчэ раз шчыра дзякую і да новых сустрэч на гасціннай бацькоўскай зямлі, ужо на Другім з'ездзе беларусаў, а ў тым, што ён абавязкова адбудзецца, я не сумняваюся.

Жыве Беларусь!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў, Украіна.

# Ад агульнага асветніцтва трэба ўключацца ў практычныя справы

Сёння ўжо цяжка здзівіць смеласцю і вастрынёй пастаўленага пытання або гучнасцю дэкларацый. І калі яшчэ год-два таму шмат якія нашы заклікі гучалі надзённа і балюча, сёння яны становяцца ўжо звыклымі і трафарэтнымі.

Сапраўды, хоць моўная сітуацыя ў краіне і застаецца досыць складанай, цяжкай, але пэўны зрух у свядомасці людзей усё ж адбыўся, і каб замацаваць і памножыць яго, патрэбны канкрэтныя справы, поўная аддача кожнага свядомага чалавека.

Успамінаюцца словы пісьменніка, што за чысціню не змагацца трэба, а браць венік ды і падмесці двор. Праўда, дзеля справядлівасці скажу, што і змаганне яшчэ не час спыняць, бо працаўнікоў справе Адраджэння па-ранейшаму нямала. Але ўсё ж натрапіла пара чарнавой, непрыкметнай штодзённай працы, што якраз бракуе тым, каму лягчэй гучна выкрыкнуць, выступіць, паляманціць.

А работы ж — цэлыя завалы. І не хапае рук, не хапае кваліфікацыі, часу, людзей. Толькі ў адным досыць невялікім (прынамсі, у параўнанні з сталіцай) Наваполацку энтузіястаў ТБМ яўна малавата, каб і на імпрэзах цікавых пабываць, і курсы беларускай мовы правесці, і сцэнар для свята напісаць, і школку наведаць... І пры гэтым не кожны любіць і шануе такую чарнавую работу, бо яна ж і часу вымагае, і славы гучнай не прыносіць.

Мне могуць запярэчыць, і пярэчаць, дарэчы, што ўсёй бягучай справай павінна займацца дзяржава, яе інстытуты. Пэўна ж так. Ды як гэта бывае на самай справе, мы добра ведаем. Калі беларуская справа не сагрэта сапраўдным пачуццём, адпаведным духам, усё яшчэ робіцца досыць казённа.

Пра што можна гаварыць, калі, да прыкладу, у адзінай у Наваполацку беларускай школе на выпускным вечары я не пачуў ніводнага беларускага слова, калі на канцэрце ансамбля песні і танца Міністэрства абароны Беларусі з вуснаў канферансье прагучаў непрыкрыты здзек з усяго беларускага, а мясцовы высокапастаўлены чыноўнік, прамаўляючы з трыбуны на дзяржаўнай мове, не лічыць патрэбным гаварыць і працаваць на ёй нават з дзеячамі беларускай культуры...

Прыкладаў такіх шмат, яны раздражняюць, становяцца прычынай галаўнога болю і бяссонных начэй. І думаеш тады, што калі махнуць на ўсё рукой, то што ж будзе з нашай агульнай высокай справай!

Вось чаму лічу, што актывісты ТБМ, усе свядомыя людзі павінны больш актыўна ўключацца ў чыста практычны працэс адраджэнскіх спраў. І ўвесь запал, усю прынцыповасць пераносіць на канкрэтныя аспекты невыканання Закона аб мовах, бюракратычнага «забалбатвання» беларусізацыі. Мне здаецца, што і ў нашым перыядычным друку, электронных сродках масавай інфармацыі таксама пара пераходзіць ад агульнай агітацыі да больш дзейсных канкрэтных матэрыялаў з канкрэтнымі асобамі, лічбамі і фактамі. Чаму, напрыклад, прэса наша амаль не заўважыла, што на добрым увогуле фестывалі беларускай песні ў Маладзечне шмат якія нашы «зоркі» дэманстратыўна дыстанціраваліся ад беларускага слова. Інакш чым растлумачыць, што нават на слова «дзякуй» у іх духу не хапала.

Пра такія і іншыя шматлікія факты паказухі, раўнадушша, унутранага чыноўніцкага супраціўлення, вядома, гаварыць трэба з тактам, без экзальтацыі, доказна і разважліва. І тут мне прыгадваецца адзін мой добры знаёмы, які замест спакойнага, але цвёрдага аналізу зрываецца на істэрыю, на лямант, што, урэшце, шкодзіць справе не менш, а, можа, нават і больш, чым вышэйназваныя хібы.

Як бы там ні было, якія б цяжкасці нам ні даводзілася пераадольваць, мы, на мой погляд, уступілі на новы, практычны этап станаўлення і дзяржаўнасці, і мовы, і свядомасці народа. Ён не менш складаны, чым першы, а ў некаторых момантах нават больш важкі і адказны. Ад агульнага асветніцтва, пераконванняў і лозунгаў сябрам ТБМ, свядомым актывістам трэба ўключацца ў практычныя справы. Трэба рабіць працэс незваротным, а дзеля гэтага падпарадкоўваць свае амбіцыі, здольнасці, густы, характар агульнай справе. Сёння не проста трэба дэклараваць любоў да беларушчыны, трэба працаваць на яе.

Мне здаецца, што і газета наша толькі выйграе, калі будзе звяртаць на гэты аспект дзейнасці арганізацыі больш увагі.

Ісці за плугам цяжка. Асабліва, калі на полі дзірван і не апрацавана як след глеба. Але ісці трэба. Бо не атрымаеш ураджаю.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

# «Будзіць у душах

*Інтэрв'ю з дэлегатам III з'езда ТБМ А. А. Літвінчуком, настаўнікам Гудзевіцкай сярэдняй школы*

**— Адзін з важных клопатаў ТБМ — садзейнічаць ажыццяўленню Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Анатоль Аляксеевіч, як, на ваш погляд, ідзе выкананне Закона аб мовах?**

— Шчыра скажу, выкананне Закона ідзе са скрыпам. Чаму? У нас ні на ўзроўні Вярхоўнага Савета, ні ніжэй няма арганізацыі, якая кантралявала б выкананне гэтага закона. Я разумею, калі б нашы людзі былі больш свядомыя, такой арганізацыі не спатрэбілася б. У нас ніхто не пакараны за невыкананне Закона. А цяпер патрэбна ў пэўнай ступені суровасць. І не таму, як хтосьці лічыць, што гэта патрэбна «нацыяналістам», а такі закон жыцця. Але той, хто знаёмы са справамі ў літоўцаў, ведае, што ў нашых суседзяў сурова абыходзяцца з тымі, хто забываецца на дзяржаўную мову. Таму роля ТБМ у гэтай справе вялікая.

**— А як працуюць суполкі на месцах, у прыватнасці суполка ў Гудзевічах?**

— Так, наша суполка вялікая, за 400 сяброў. Але канкрэтнай работы не праводзіцца. Вось ужо шэсць гадоў запар летам праводзіцца Купалле, а цяпер пачалі і калядаванні, і галёканне. Але шчыра скажу, усё гэта было б і без суполкі ТБМ. Яшчэ дапамагаем мастацкай літаратурай і падручнікамі беларусам у Польшчы і Літве, але гэта робяць некалькі чалавек, а не ўся суполка. Можна было б расказаць і пра іншыя патрыятычныя пачыманні. Аднак хацелася б, каб суполкі падтрымлівала кіраўніцтва, каб суполкі паміж сабой наладжвалі больш цесныя сувязі.

**— Як вы лічыце, ці будуць рашэнні з'езда садзейнічаць паляпшэнню стану беларускай мовы?**

— Ад імя з'езда былі пасланы дзве тэлеграмы на адрас Вярхоўнага Савета аб пераводзе вышэйшых наву-

**Чыталі?**

# Адчыніць дзверы ў еўрапейскі дом

Шырыцца інфармацыйная прастора беларускай сацыял-дэмакратыі. Менавіта ў гэтым запэўнівае нядаўна выдадзены другі нумар палітычнай, грамадскай і літаратурнай газеты «Менская грамада».

Нагадаем: яе заснавальнікамі з'яўляюцца Асацыяцыя беларускіх выданняў ТБМ імя Ф. Скарыны і спадары Віталь Скалабан, Алесь Траяноўскі, Яўген Цумараў, Уладзімір Ягоўдзік.

У чарговым нумары — падрабязны аналітычны рэпартаж з III з'езда БНФ «Адраджэньне». Аўтар публікацыі папрасіў ацаніць вы-

# Каб застацца ў кантэксце

## Нататкі з «круглага стала»

**Нагадаю, што 9 ліпеня ўдзельнікі Першага з'езда беларусаў свету правялі ў дыскусіях за «круглымі сталамі». У Доме літаратара абмяркоўваліся праблемы беларускай культуры. Выступілі прадстаўнікі ад міністэрстваў, навуковых і навучальных устаноў РБ, дзеячы культуры замежжа, дэлегаты з'езда. Сярод іх Вітаўт Кіпель, Ала Корсак (Нью-Йорк), Вячка Целеш (Рыга), Аляксей Пяткевіч (Гродна), Васіль Ермаловіч (Магілёў), Вольга Іпатава, Ядвіга Грыгаровіч, Уладзімір Конан, Зінаіда Мажэйка, Анатоль Сабалеўскі, Ганна Сухнат, Ірына Шаблоўская. Разглядаліся пытанні стварэння нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі (кадры, падручнікі, беларусізацыя навучальнага працэсу), а таксама культурныя патрэбы беларусаў блізкага замежжа. У выступленнях «гаспадароў» гучалі заклікі да замежных суродзічаў актыўна мацаваць кантакты з Бацькаўшчынай, уключыцца непасрэдна ў яе адраджэнне. У зале лунаў дух братэрства і грамадзянскай супольнасці.**

**А. Пяткевіч з Гродзенскага універсітэта выказаў думку, што для беларусаў настаў час «збіраць камяні», а менавіта падлічыць набыткі духоўныя, самасцвердзіцца ў роднай культуры, заявіць правы на тое, што «братнія народы» абвясцілі сваім. «Трэба ведаць,— сказаў сп. Пяткевіч,—што адна з першых навучальных устаноў у Еўропе — Віленская езуіцкая акадэмія (1579) — з'ява беларускай культуры, як і храмы Смаленска і культура ад Адама Міцкевіча да Марка Шагала. Трэба ведаць, што творчыя і навуковыя дасягненні слынных беларусаў замежжа — Забэйды-Суміцкага, Лявона Тарасэвіча, Міхала Навумовіча, Барыса Кіта, Ігната Дамейкі таксама ўваходзяць у духоўны набытак нашага народа».**

**Пытанне кадраў для беларускай культуры магчыма вырашыць пры ўдзеле беларусаў замежжа,— сказаў далей сп. Пяткевіч.— Нашы школы павінны стаць нацыянальнымі па сістэме жыццядзейнасці, а яны ўсё яшчэ застаюцца астраўкамі чужой культуры, бо працуюць там людзі, узгадаваныя на ідэях таталітарнай дзяржавы. У нас не акрэдытоўваюцца кадры ў галіне культуры, а гэта трэба рабіць.**

**На цяжкасцях адраджэнскага працэсу спынілася і рэктар Менскага інстытута культуры Ядвіга Грыгаровіч. «Гісторыя дала нам апошні шанц пабудаваць незалежную дзяржаву, адрадзіцца духоўна, і мы павінны дзеля гэтага, кожны на сваім месцы, зрабіць усё магчымае, каб не страціць гэты шанц», — сказала яна.**

**Канструктыўныя прапановы:**

**змяніць сістэму набору ў ВНУ РБ. У нас вучацца жыхары Азіі, Афрыкі і польскай Беласточчыны. Трэба адчыніць дзверы вучэльняў і для моладзі беларускай дыяспары. У інстытуце культуры яна можа набываць веды ў галіне народнага мастацтва, рамёстваў і промыслаў Беларусі. Дзе б потым ні жылі гэтыя нашы выхаванцы, яны ўсюды будуць аддана служыць беларускай культуры;**

**актыўна супрацоўнічаць з дыяспарай. Суродзічы могуць нам дапамагаць абменьвацца інфармацыяй з навуковымі асяродкамі заходніх краін, яны таксама могуць працаваць у нашых навучальных і навуковых установах.**

**На завяршэнне гаворкі спадарыня рэктар шчыра запрасіла суайчыннікаў замежжа чытаць лекцыі ў інстытуце культуры. На заўвагу выкладчыцы нью-йоркскага універсітэта Алы Корсак, што супрацоўніцтва дыяспары з метраполіяй магчыма пры ўмове, «калі вы паставіцеся незалежна ад Масквы і будзеце выконваць усе дамовы, бо да вас ёсць недавер» спадарыня Грыгаровіч адказала: «ВНУ рэспублікі атрымалі абсалютную незалежнасць. Праграмы зменены на 70—80 працэнтаў, і ў нас з вамі могуць быць прамыя кантакты».**

**Агульная бяда нашай культуры — адсутнасць новых падручнікаў і дапаможнікаў. Пра гэта гаварыла і Шаблоўская. Самая нераспрацаваная дзялянка на ніве культуры, на яе думку,— гэта стан выкладання сусветнай літаратуры. Спецыялістаў мала, а падручніка па прадмету на роднай мове зусім няма. Дык хто і калі яго напіша?**

**Галоўны рэдактар «Тэатральнай Беларусі» прафесар Анатоль Сабалеўскі адзначыў, што паколькі супрацьстаянне посткамуністычных сіл беларускаму адраджэнню дасягнула высокага ўзроўню, мы павінны супрацьпаставіць гэтай з'яве штосьці сваё. І перш-наперш культуру замежжа, вельмі багатую, патрэбна як найхутчэй уключыць у агульны кантэкст беларускай культуры. Гэта нас узбагаціць і ўмацуе. Трэба таксама шырока праводзіць асветную работу. Мы можам гаварыць і выступаць, але па канкрэтных справах.**

**Як сёння вывучаецца беларуская культура? Пакуль што на вельмі самадзейнай аснове, на курсах і спецкурсах. Неабходна стварыць кампетэнтны аўтарскі калектыў і тэрмінова падрыхтаваць некалькі дапаможнікаў для школ і ВНУ. Пры добрай арганізацыі іх можна падрыхтаваць хутка, а курс беларускай культуры ўводзіць паўсюды з наступнага навучальнага года.**

**На крытычныя заўвагі на адрас Міністэрства адукацыі і старых падручнікаў, якія яшчэ функцыяніруюць у школе, адказала намеснік міністра адукацыі Ганна Сухнат. Яна пагадзілася з многімі закідамі, аднак падкрэсліла, што гэта «не віна наша, а бяда».**

**«Зараз мы разумеем,— сказала сп. Сухнат,— што стварэнне нацыянальнай школы ў рэспубліцы —**

чальных устаноў на беларускую мову і таксама супрацьваеннага саюзу Беларусі з другімі дзяржавамі. Дзе ж тады нейтралітэт, аб якім мы заявілі на ўвесь свет?! Ці захочуць нашы бацькі пасылаць сваіх сыноў у гарачыя кропкі былога Саюза, каб яны заставаліся там навекі?!

І прыемна было чуць, што ў тых месцах Беларусі ідзе доМастоўскую і Луннянскую трэба пашырыць, неабходна стварыць суполкі ва ўсіх сельсаветах.

— **Як вы ацэньваеце зварот да жыхароў горада і раёна?**

— Так, у 25 нумары раённай газеты змешчаны зварот да жыхароў Мастоўскага раёна. Пытанне складанае: як ажыццявіць ідэі звароту? Адной су-

# людзей беларускасць»

бра справа Адраджэння, дзе дапамагаюць кіраўнікі гарадоў і раёнаў, як гэта робіць мэр Маладзечна Карпенка. Такіх прыхільнікаў у нашым раёне не бачу.

— **Якой вы бачыце работу ТБМ і суполак на месцах у далейшым?**

— Лічу, што кожнаму, каму не абыякавая наша радзіма Беларусь, трэба займацца шырэй будзённай працай у суполках ТБМ, трэба ісці да людзей, будзіць у іх душах беларускасць. За нас гэтую работу ніхто не зробіць. Лічу, што такую суполку, як Гудзевіцкая, трэба раздзяліць па вёсках, тады лепш будзе працаваць, кожны больш дакладна вызначыць сваё месца ў дзейнасці. А полцы ТБМ цяжка будзе. Трэба, каб аддзел адукацыі райвыканкама хадайнічаў перад абласным упраўленнем, міністэрствам, тады справа скранецца з месца. Выкладчыкам роднае мовы, кіраўнікам школ трэба быць ініцыятыўнымі ў справе пашырэння сферы беларускай мовы ў школе і па-за яе межамі. Не павінны стаяць убаку бацькоўскія камітэты, кожны настаўнік, усе шчырыя беларусы.

Вельмі страшна будзе, калі мы страцім сваю мову, культуру, гісторыю. Такога дапусціць нельга!

**Гутарыў А. САБАСЦЯН.**

(Альбаросіка, № 1. Выданне Мастоўскай раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны).

# Пачынаць з маленства

У народзе слушна кажуць: «Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе, хто забыў сваю мову — усё губляе».

І вось, каб не згубіць сябе і родную мову, каб выхаваць у дзяцей высокае пачуццё нацыянальнай годнасці і свядомасці, калектыў дзіцячага садка № 25 г. Маладзечна ўзяўся за вельмі далікатную, складаную справу.

А пачыналася ўсё нялёгка. Загадчыца садка Ларыса Міхайлаўна Попель і метадыстка Людміла Шахновіч пачалі працаваць не толькі над сістэмай работы з дзецьмі, але паклапаціліся аб адпаведнай матэрыяльнай базе. Менавіта на гэтай аснове і быў створаны гурток «Адраджэнне беларускай мовы, культуры і этнаграфіі».

Пасля ў супрацоўнікаў і выхавацелек садка ўзнікла ідэя стварыць «беларускую хатку». Вышытыя ручнікі, старадаўнія рэчы хатняга ўжытку: прас і ступка, калаўрот і кудзеля, гладышы, драўляныя лыжкі. У гэтую хатку нельга ўвайсці проста і будзённа. Тут пануе ўрачыстасць, бо сустракаешся з жыццём нашых продкаў, з роднай мінуўшчынай. Сюды прыходзяць на экскурсію і дзеці з іншых садкоў нашага горада. У «беларускай хатцы» праводзяцца заняткі па тэмах: «Беларускае народнае ткацтва», «Сакрэты бабуліных узораў», «Беларуская народная цацка».

Тут, у садку, арганізуюцца і тэматычныя экскурсіі на ўлонне прыроды, дзеці знаёмяцца з раслінным і жывёльным светам роднай краіны.

Выхаванцы садка па-сапраўднаму любяць беларускі фальклор, старадаўнія народныя песні, гульні, абрады. З вялікай адказнасцю выхавацелькі садка ставяцца да штогадовых свят — гуканне вясны, Купалле, Дажынкі. Тут з дзеткамі заўсёды музычны кіраўнік Таццяна Аляксандраўна Гірвель.

А якім захапляючым у гэтым садку было праведзена сёлета гуканне вясны. У беларусаў здаўна існаваў шырока распаўсюджаны звычай клікаць вясну, «замыкаць» зіму і «адмыкаць» лета. Педагагічны калектыў садка рыхтаваўся да гэтага свята вельмі актыўна і старанна. Былі выраблены атрыбуты і цацкі — каляровыя птушачкі на палачках, вяночкі, касцюмы для Зімы, Вясны і валачобнікаў. Развучвалі песні, гульні. Ніхто не застаўся абыякавым. Асабліва актыўна папрацавалі выхавацелькі В. П. Хайбуліна, А. Б. Абрамовіч, Г. М. Шамшур, Р. А. Сударэвіч, Г. П. Карыцька.

У садку № 25 працуюць творчыя людзі, якія вераць, што некалі над Белай Руссю, блакітнай ад лёну і васількоў, расцвіце трапяткое беларускае слова.

**М. КАПЫЛОВІЧ.**

нікі з'езда вядомага філосафа Уладзіміра Конана, старшыню БСДГ Алега Трусава, намесніка старшыні НДПБ Віктара Навуменкі і нашага земляка з Вільні Лявона Луцкевіча. Вось што сказаў Віктар Навуменка: «Адметнасцю Трэцяга з'езда БНФ з'яўляецца тая спакойная атмасфера, у якой ён праходзіў, не было ранейшай мітынговасці, урачыстай узрушанасці. З'езд быў дзелавы, мо нават і занадта, праходзіў быццам па пракладзенай каляіне... І яшчэ — калі на Першым і часткова на Другім з'ездах былі людзі, далёкія ад Адраджэння, дык на Трэцім згуртавалася адраджэнскае ядро руху, энергічнае і дзейнае. І сам БНФ стаў ядром, вакол якога гуртуюцца дэмакратычныя партыі, якія ўзніклі за апошнія гады».

На трэцяй старонцы газеты — матэрыял пра аб'ядналчы з'езд КПБ і ПКБ. Відавочна, што аўтар публікацыі сам не прысутнічаў на гэтым мерапрыемстве. Таму ён дапускае некаторыя недакладнасці, хоць гэта падзея патрабуе больш уважлівага, аналітычнага погляду. Так, абыдзена ўвагай стаўленне камуністаў да беларускай мовы. А, між іншым, менавіта гэта пытанне на з'ездзе выклікала дэбаты. Абаронцам дзяржаўнасці роднай мовы, як ні дзіўна, выступіў спадар Камай. Раней бы ён так рупіўся!

У вострай карэспандэнцыі «Звальненне за... патрыятызм» — апошнія падрабязнасці справы старшыні Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўніка Міколы Статкевіча, беспадстаўна звольненага з арміі. Побач друкуецца верш Віктара Навуменкі «Слуцкаму паўстанцу».

Хацеў чужынец,
каб мы, народ,
Згубілі памяць,
магілы продкаў
і нават мову.
Ды так не будзе.
Настане год —
І будзе помнік,
і будзе гонар
для Семяжова.

Мажліва, што гэтыя словы напомняць беларускім літаратарам, мастакам, работнікам кіно: Слуцкае паўстанне застаецца зусім нераспрацаванай тэмай, бо твораў аб гэтым гераічным і драматычным эпізодзе нашай гісторыі дагэтуль няма.

У другім нумары «Менскай грамады», безумоўна, выклікае цікавасць артыкул Яўгена Цумарава «Запруды на шляху станаўлення дзяржаўнасці». Народны дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі грунтоўна, як заўсёды, разважае пра магчымыя варыянты далейшага развіцця грамадска-палітычнай сітуацыі на Беларусі.

Другі нумар характарызуецца інфармацыйнай насычанасцю. Відавочна, што нават пры малой перыядычнасці гэтага выдання, можна своечасова змяшчаць інфармацыю, якая вылучаецца актуальнасцю, адметнасцю і арыгінальнасцю.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

# культуры

**гэта перш за ўсё змест адукацыі, змест, які заснаваны на нацыянальна-культурнай ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, на багатых традыцыях Рэспублікі Беларусь, на агульначалавечых каштоўнасцях і на сусветным вопыце». Далей намеснік міністра паведаміла, што новыя планы і праграмы амаль ужо зроблены, а выдатныя аўтарскія калектывы працуюць над рукапісамі 22 новых падручнікаў для школ у асноўным па гісторыі, геаграфіі, мове і літаратуры, кіруючыся пры гэтым «новай праўдзівай гістарычнай канцэпцыяй». Пры Міністэрстве адукацыі працуе навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання. Наколькі няпроста выглядае сітуацыя з новымі падручнікамі, можа засведчыць такі факт. Калі да 1986 г. школы Беларусі атрымлівалі з маскоўскага выдавецтва «Просвещение» 85 працэнтаў навучальнай літаратуры і толькі 46 дапаможнікаў рыхтавалася ўласнымі сіламі рэспублікі, то зараз неабходна памяняць 700 падручнікаў і дапаможнікаў і ўсё гэта зрабіць самім. У 1992 г. выйшла 114 падручнікаў для школ, у 1993 г. іх выйдзе 130, а да 1998 г. плануецца замяніць усе 700 найменняў.**

**Вячка Целеш выступіў ад аб'яднання беларускіх мастакоў Латвіі «Маю гонар» і таварыства беларускай культуры «Світанак» і намаляваў тыповую карціну культурнага адраджэння этнічных беларусаў у Прыбалтыцы. Галоўная праблема — гэта хоць як, але заручыцца падтрымкай Бацькаўшчыны, без якой ім проста не выжыць: не хапае матэрыяльных сродкаў для дзіцячай студыі, дапаможнікаў для нядзельнай школы, цяжка падабраць адпаведныя кадры. Адукаваныя беларусы ў Латвіі ў асноўным нацыянал-нігілісты, змагаюцца за інтарэсы рускамоўнага насельніцтва і сцвярджаюць, што «у нас единая советская культура и о какой-то там белорусской говорить нечего».**

**Ёсць і рэжысёры, і музыканты з акадэмічнай адукацыяй, але ім не падыходзіць пазіцыя таварыства беларускай культуры, а менавіта: незалежнасць Беларусі і незалежнасць Латвіі. Дарэчы, беларуская культура ў Прыбалтыцы мае глыбокія карані. Да саракавога года тут былі беларускія школы, выдавецтвы і тэатры, якія зруйнавала савецкая ўлада і адраджаць якія цяпер даводзіцца на голым месцы.**

**Што цяпер галоўнае для беларусаў блізкага замежжа? Упэўненасць, што іх дзеці, падрыхтаваныя дома на беларускай мове, літаратуры, гісторыі і мастацтве, змогуць працягваць адукацыю на Бацькаўшчыне. Такая дамоўленасць — прынамсі ў беларусаў Латвіі з нашым Міністэрствам адукацыі — быццам бы існуе.**

**У памяці засталося выступленне В. Кіпеля, які першы сказаў, што культуру этнічнай дыяспары трэба паставіць у агульны кантэкст нацыянальнай культуры беларусаў і развагі рэжысёра Краснапольскага народнага тэатра В. Ермаловіча аб далейшых шляхах развіцця тэатральнага мастацтва ў глыбінцы; крытычныя закіды пісьменніцы В. Іпатавай у адрас праграм Беларускага тэлебачання; прачулая гаворка з аўдыторыяй даследчыцы аўтэнтычнага фальклору Зінаіды Мажэйкі, што завяршылася паказам дакументальных фільмаў, якія засведчылі не толькі хараство і першародную чысціню народнага мастацтва, а і тое, што яно нас аб'ядноўвае ў адзіны народ.**

Ірына КРЭНЬ.

WIS
Беларуская Інфармацыйная Служба

# Да наступнага лета

**Закончыўся сезон у скаўцкім летніку «Путыцкі луг», дзе адпачывалі 75 сяброў Аб'яднання беларускіх скаўтаў з Баранавіч, Ваўкавыска, Гародні, Парэчча, Менска, Маладзечна. Хоць надвор'е было не надта спрыяльным, але скаўты добра адпачылі.**

**Летнік быў прысвечаны Першаму з'езду беларусаў свету і 130-м угодкам паўстання 1863 года. Упершыню летнік фінансаваўся ўрадам, а раней сродкі выдаткоўваў Гродзенскі культурна-асветны цэнтр «Бацькаўшчына».**

Аркадзь ТУРОЎСКІ.

# Па слядах «Зялёнай арміі»

**22 ліпеня гомельская выбранецкая брыгада «Талака» распачала экспедыцыю па месцах паўстання Івана Галакі. «Зялёная армія» ў 1920-22 гадах змагалася за Саветы без камуністаў, выступала супраць калектывізацыі і раскулачвання. Яна карысталася падтрымкай сялянства.**

**Фундатарам экспедыцыі з'яўляецца гомельская гандлёва-камерцыйная фірма «Стымул».**

Зміцер САСНОЎСКІ.

# Калгасу «Рассвет» ад Міністэрства абароны Расіі

**Хваля раззбраення дакацілася і да самага заходняга раёна Беларусі — Камянеччыны. Ужо сабралі пакункі афіцэры і прапаршчыкі камянецкіх вайсковых часцей, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Расіі.**

**Адны вайскоўцы паедуць даслужваць за межы Беларусі, іншыя маюць магчымасць звольніцца ў запас і застацца ў нашай краіне. Што да вайсковых гарадкоў, то яны неўзабаве непазнавальна зменяць сваё прызначэнне: у гарадку ля в. Мурыны будзе размешчаны санаторый для пенсіянераў і інвалідаў, а гарадок ля в. Дварцы перададуць калгасу «Рассвет», дзе збіраюцца абсталяваць цэхі падсобнай вытворчасці.**

Генусь ПУШЧАНСКІ.

*440 год Рэфармацыі ў Беларусі (1553—1993)*

# Узровень палітыкі і культуры





*Забылі ўсё, згубілі долю,*
*Змяшалі славы цвет з гразёй,*
*І запрадаліся ў няволю,*
*З душой і скурай счэзлі ў ёй.*

Янка КУПАЛА.

Працятыя невыказным болем і сарказмам гэтыя словы купалаўскага «Прарока» неадступна прыходзяць на памяць заўсёды, калі наведваеш нашы гістарычныя мясціны ў Койданаве, Кухцічах, Асташыне і шмат яшчэ дзе. Неяк адразу пачынаюць развейвацца міфатворчыя спекуляцыі пра адвечную талерантнасць... О дакучлівыя творцы і паўтаральнікі стэрэатыпаў, уважліва паўзірайцеся на гэтыя храмы, помнікі архітэктуры, культуры ці яшчэ, як хочаце, назавём іх! Дык вось, спадары — аматары называцца скрозь еўрапейскай нацыяй, якраз гэтыя помнікі нашай далучанасці да еўрапейскай цывілізацыі засталіся існаваць толькі на фатаграфіях! І што самае цікавае?! Гэта не знешнія ворагі, нейкія там чужынцы, прышэльцы, навалач, а мы самі, наша савецкая ўлада, саўдзельна з падступнымі акупантамі ператварыла светлыя храмы і рэнесансавыя замкі ў хлявы. Руіны і сметнікі, «мярзота запусцення» сёння на тым месцы, дзе нашы бацькі, баронячы беларускую незалежнасць, узнеслі велічныя храмы Божай славы. Вельмі ж запаволена прачынаецца народ, цяжкі духоўны прыгнёт, ткуць яшчэ сваё ліпкае павуцінне нястомныя павукі — архітэктары новых цянётаў...

Ды ўсё ж, не зважаючы на няспрыяльныя надворныя абставіны (нават у кліматычным сэнсе, бо ў гэты дзень моцна дажджыла), 14 ліпеня 1993 г. перад будынкам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь адбылася акцыя пратэсту супраць палітыкі дзяржаўнага вандалізму ў абарону беларускай культуры і грамадзянскіх правоў хрысціян рэфармацкай царквы. Дэманстранты трымалі ў руках змястоўныя плакаты з інфармацыяй і зваротамі да кіраўнікоў савецкай улады. Беларускія грамадзяне вельмі жадалі давесці да свядомасці ўрадавых структур інфармацыю пра 440-гадовую гісторыю беларускага пратэстантызму. Але, відаць, насельнікі былога цэкоўскага будынка не зазіраюць у каляндар «Наш край», не жадаюць яны бачыць і тое, што робіцца пад вокнамі цяперашняга парламента... Як ні жаль, але ніхто з дэпутатаў, нават з Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, да ўдзельнікаў дэманстрацыі не падышоў, не пацікавіўся. Вось такая палітыка. І ўсё ж на плакатах у руках маладых людзей 14 ліпеня 1993 г. было напісана: «Жыве беларуская Рэфармацыя!»



НА ЗДЫМКАХ: помнікі Беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры, разбураныя дашчэнту або сцёртыя з аблічча зямлі ў выніку палітыкі савецкага дзяржаўнага вандалізму. Койданава, Асташына, Кухцічы...

С. ЛЮДАМАНТ.



*Беларускае замежжа*

## «Голас часу»: ліпень-жнівень, 1993

У нумары змешчаны шэраг матэрыялаў на гістарычную тэму. Сярод іх роспавяд Антося Мірановіча пра гісторыю іконы Божай Маці з Дзіцем, якая знаходзіцца ў царкве Раджджаства Прачыстай Дзевы Марыі ў Бельску-Падляшскім і належыць да самых каштоўных іканапісных помнікаў на Беласточчыне, два нарысы Аляксандра Баханчыка «Старажытнаму Нясвіжу 770 гадоў» і «Маршал Конеў схлусіў», працяг публікацыі Ю. Свяржынскага «Галасы аб «Вялікай Айчыннай вайне», удзел у ёй савецкіх і польскіх партызан».

У нумары працягваюць друкавацца нататкі Наталлі Сцяжко «Па залах музея Алеся Белакоза». На гэты раз чытачам прапанаваны матэрыялы, прысвечаныя дзвюм беларускім жанчынам, якія нарадзіліся недалёка ад вёскі Гудзевічы, што пад Гародняй: вядомай паэтцы Ларысе Геніюш і таленавітай, але ледзь пісьменнай Агаце Тарасевіч, якая складала вершы, прыдумвала да іх мелодыю і сама спявала, а з ёй спявала і ўся вёска.

«Вачамі праўды» — так называецца ліст былога партызана Ю. Хахолкі да таварышаў-партызанаў, якія абурыліся артыкулам прафесара Яўгена Шыраева «Партызаны правакавалі акупантаў», надрукаванага ў маладзечанскай газеце «Наш дзень» (№ 102 за 9 снежня 1992 г.). Ю. Хахолка піша: «Гэта быў шчыры, сапраўдны агляд падзей у час Другой сусветнай вайны, якую нам прыйшлося перажыць і не толькі быць сведкамі, але некаторым з нас браць у ёй актыўны ўдзел. Прафесар Я. Шыраеў можа гэтым ганарыцца, што лічыў патрэбным сказаць праўду народу, і гэтым самым хоць крыху выпраставаць скрыўленую перавялічаную сямідзесяцігадовую камуністычную прапаганду аб ролі, якую адыгралі так званыя героі-партызаны ў нашых беларускіх лясах».

«Аб гэтым трэба памятаць» — успаміны Ф. Кушаля аб ролі падпалкоўніка Гіль-Радзіёнава ў час вайны на Беларусі. Чытачоў «Голасу часу» зацікавяць артыкулы: «Адны аднаўляюць камуністычныя партыі, другія збіраюць сілы і доказы, каб камуністычную наменклатуру і ідэалогію судзіць», «Вось табе і «воля», Беларусь...», «Ці ж гэта голас народа і Бога?». Юрась Сцяпанаў падае весткі з Віцебшчыны.

Часопіс пачаў публікацыю «Кароткія ўспаміны» Паўла Навары, сябра Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, які памёр у 1983 годзе ў адной з Лонданскіх клінік. Напрыканцы нумара змешчаны шэраг выпісаў з беларускага перыядычнага друку і падаецца кароткая інфармацыя з грамадска-культурнага жыцця эміграцыі.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

---

## «Полацак»

На Беларусь прыйшоў пяты нумар часопіса «Полацак». Ён адкрываецца нататкай Святланы Белай «Беларусь, твой народ сустракаецца...», якая прысвечана Першаму з'езду беларусаў свету. Сяргей Тарасаў прапануе чытачам артыкул «Полацкая эпіграфія X — XV стст.», а Ірына Масько — «Венгерскі дукат XV ст. у зборы Нацыянальнага музея Беларусі». У рубрыцы «Далёкае і блізкае» змешчана даследаванне Леаніда Лыча «Беларускае замежжа: гісторыя і сучаснасць». Працягваецца публікацыя «Тапаграфіі знаходак манет і аздобаў, знойдзеных у Менскай вобласці», падрыхтаваная Міхасём Белемуком. Дарэчы, Міхасю Белемуку Інстытутам гісторыі Акадэміі навук Беларусі нададзена ганаровае званне сябра гэтага Інстытута, з чым «Наша слова» ад душы віншуе спадара. У рубрыцы «З архіваў КДБ» змешчаны пратакол допыту Канстанціна Езавітава, датаваны 26 красавіка 1945 года. Пра эмігранцкі лёс Ларысы Геніюш распавядае Леў Мірачыцкі.

«У кастрычніку 1596 г. у Берасці была абвешчана вуніяцкая царква, а кароль Жыгімонт Ваза 15 кастрычніка 1596 г. выдаў свой універсал, у якім абяцаў узяць вуніяцкую царкву пад сваю апеку. Ад 1596 г. пачынаецца праслед праваслаўных у Рэчы Паспалітай і ліквідуюцца праваслаўныя епіскопствы. У 1633 г. на ўсю Беларусь была толькі адна епіскопія ў Магілёве» — гэта радкі з урэзкі да ўспамінаў Антона Шукелойца пра каштоўнасці Менскіх праваслаўных цэркваў, якія загінулі пасля Вялікай Айчыннай вайны. «Полацак» працягвае знаёміць сваіх чытачоў з успамінамі Яўгена Ціхановіча.

«— Верын лёс,— ціха працягвае Раіса Галяк,— падобны на лёс многіх нашых сяброў, якіх таксама б чакала высылка, каб не ад'езд на Захад, які адбыўся за некалькі месяцаў пасля сустрэчы на святкаванні 25-годдзя Віленскай беларускай гімназіі» — гэта фрагмент гутаркі Святланы Белай з Раісай Галяк, чые ўспаміны пра Беларускую гімназію ў Вільні змешчаны ў рубрыцы «Віленскія беларусы расказваюць...»

З літаратурных твораў друкуюцца вершы Рыгора Барадуліна «Беларускім паэтам на чужыне», Янкі Юхнаўца «Паэт беларускі, ці іншыя...», а таксама прысвячэнні Ларысе Геніюш Васіля Супруна. Чытачоў чакае дзесятая быліца «Із агню ды ў полымя» Міхася Кавыля.

«Полацак» багата ілюстраваны рэдкімі здымкамі з жыцця беларускага замежжа.

В. А.

Вучымся!

*Фразеалагізмы ў паэме*

# Невядомая «Новая зямля»

*Надзвычай вобразная, метафарычная, паэтычная мова «Новай зямлі» — гэта жывая беларуская мова Панямоння. Адтуль жа трапілі ў паэму і шмат якія ўстойлівыя спалучэнні слоў — фразеалагізмы. Большасць іх вядома шмат якім гаворкам і ўжываецца ў беларускай літаратурнай мове. Яны зразумелыя чытачам. Вось, прыкладам, як леснікі з «Новай зямлі» кажуць пра лясічага:*

**— Цьфу! лае, бэсціць з-за нічога!**
**А мух, брат, мух у носе многа!**
**І так нясецца ён, васпане, —**
**Тычына шапкі не дастане!**

*«З мухамі ў носе» — з норавам.*

*Трохі больш складана вызначыць сэнс радка паэмы: «Дадому дзядзька ехаў лёсы». У каментары да «Новай зямлі» гэты выраз тлумачыцца, як 'ехаў паражняком'. У пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» няма слова* **лёсы.** *Але «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 5, с. 302) падае іншае яго значэнне, спасылаючыся на «Матэрыялы для слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. П. Сцяшковіч, — 'шчаслівы, задаволены'. Лексема* **лёсы** *з такім значэннем запісана ў Карэліцкім раёне, недалёка ад родных мясцін Якуба Коласа. Згадаем, што яно якраз адпавядае настрою дзядзькі Антося, з якім ён вяртаўся дадому: дзед Юрка аддаў яму свой човен. Да таго ж, у тэксце выразна напісана: «кладзе ён човен на калёсы». Але самае «таямнічае» спалучэнне слоў —* **насіць катла,** *хаця ў каментары растлумачана яго значэнне 'гуляць з малым, носячы яго за плячыма'. Ды кажуць жа ў такім выпадку:* **насіць гаршкі** *(з адпаведнай праверкай, ці не дзіравыя гаршкі) або* **насіць на барана.** *А тут — кацёл. Як магло ўзнікнуць такое словазлучэнне?*

*Сваё трактаванне фразеалагізма* **насіць катла** *прапанаваў кандыдат філалагічных навук Сяргей Запрудскі. Пераказваем яго артыкул.*

## 3. Насіць катла

**Наш дзядька, мілы наш Антоні,**
**Ў дзіцячым часта быў палоне;**
**Вось так гуртом яго абсядуць**
**І час работы яго крадуць;**
**«Насі катла», кажы ім казкі,**
**Ідзі на поплаў з імі ў краскі,**
**Давай адказы на пытанні,**
**Тлумач ты ім усё дазвання...**

Звяртае на сябе ўвагу выраз *насіць катла,* змест якога з дадзенага кантэксту можа быць вызначаны толькі ў самым агульным плане — 'займацца з дзецьмі нейкай прыемнай для іх гульнёй'. У каментарыях да паэмы знаходзім падобнае тлумачэнне гэтых слоў: *насіць катла* значыць 'гуляць з малым, носячы яго за плячыма'. Але чаму менавіта так трэба разумець згаданы выраз?

Таму карысна будзе звярнуць увагу на падобныя ўтварэнні жывой беларускай мовы. У значэнні 'насіць на спіне, за плячыма чалавека (звычайна дзіця)' у Астравецкім раёне ўжываецца фразеалагізм *насіць кашаля.* На Ушаччыне ў такіх выпадках гавораць *несці на каркушках,* што варта параўнаць з македонскім *кркуш* 'за плячыма, на спіне', з дыялектным сербскахарвацкім *кр̀кӯш* 'плячо', старажытнапольскім *каркуш* 'плечы', бранскім *на коркушах* 'на спіне, за плячыма'. Мабыць, яны абазначаюць тое самае, што і наша *на карку.*

У шмат якіх мясцовасцях можна пачуць фразеалагізмы, у якіх спалучаецца дзеяслоў *насіць* з словамі *гаршкі, горшкі: насіць гаршкі* (Валожынскі, Докшыцкі, Касцюковіцкі, Краснапольскі раёны), *насіць бабы-горшкі* (Івацэвіцкі і Дзятлаўскі), *насіць бабы-гэршкі* (Гродзенскі), *узяць на горшкі* (Шчучынскі), *взяты на гэршкы* (Драгічынскі раён).

Гэтыя прыклады паказваюць, што фразеалагізмы з значэннем 'насіць дзіця на спіне, за плячыма' могуць утварацца паводле наступнага семантычнага пераходу: 'насіць на спіне, за плячыма нейкі посуд, ёмістасць' — 'насіць на спіне, за плячыма дзіця'. Выраз *насіць катла (кацёл)* у абагуленым выглядзе таксама абазначае 'насіць нейкі посуд, ёмістасць'. Магчыма, і ён утварыўся паводле мадэлі 'насіць на спіне посуд' — 'насіць на спіне дзіця', а яго другі кампанент мае самае непасрэднае дачыненне да назоўніка *кацёл* (праславянскае kotьlъ) 'від посуду'?

Відавочна, што станоўчы адказ мала верагодны. І вось чаму. За выразамі *насіць кашаля (кашэль), насіць гаршкі* ў іх прамым значэнні стаяць зусім звычайныя сялянскія дзеянні: у гаршках-спарышах, прыкладам, жанчыны насілі ежу на поле. Кашалі (кашы) — таксама звычайны посуд для пераносу агародніны, садавіны. Але мала хто бачыў, каб на спіне насілі катла. Таму можна меркаваць, што няма падставы для развіцця ў выразе *насіць катла* пераносных значэнняў.

Часта архаічныя формы слова, само слова можна растлумачыць з дапамогай лінгвістычных матэрыялаў іншай мовы. Звернемся да роднасных: балгарскае дыялектнае *котел* 'пятля', *котелецъ* 'завязка панчохі'; македонскае *котелец* 'пятля (пры вязанні)'; дыялектнае сербскахарвацкае *котељак* 'круглы скрутак з хустак, які кладуць на галаву як падстаўку для пераносу цяжару'. Трэба згадаць і наша *хатыль* 'сплецены з бяросты кош для хлеба', 'кайстра'. Ва ўсіх выразна праглядаецца сэнс вязання, пляцення: 'пятля', 'завязка', 'скрутак'. Тое ж, хоць і ўскосна, прачуваецца і ў словах 'кайстра', 'кашэль', 'пляцёнка': усё гэта пераважна сплеценыя, звязаныя ёмістасці. Спалучанасць значэнняў 'каціць, валяць' і 'вязаць, плесці', відавочна, не з'ўляецца выпадковасцю і, верагодна, пэўным чынам спрычынілася да ўтварэння слова *кацёл (катла).*

Фразеалагізм *насіць катла* абазначае вельмі спецыфічны спосаб нашэння, найверагодней, штосьці абвіваючы, пераплятаючы. Той, хто нясе, абавязкова пераплятае рукамі ногі таго, каго нясе. А той, каго нясуць, абвівае рукамі шыю таго, хто нясе. Пацвярджае такое меркаванне, што *насіць катла* — 'насіць на плячах', і такі ж фразеалагізм з яшчэ аднаго твора Якуба Коласа. У яго апавяданні «Чорт» расказваецца пра камічныя прыгоды двух леснікоў, Міхася і Івана. Яны, добра выпіўшы, вяртаюцца дадому. Іван не мог ісці далей ды лёг на зямлю. Тады Міхась прапанаваў сябру: «Садзіся мне на плечы, панясу катла».

**Паводле**
**С. ЗАПРУДСКАГА.**

# З гісторыі слова «спадар»

Перш чым непасрэдна разглядаць вернутыя да жыцця ў наш час старабеларускія словы *спадар, спадарыня* і вытворныя ад іх, мы зазірнём у далёкія старажытныя часы пачатку нашага тысячагоддзя, калі былі «ў модзе» граматы. Мова гэтых грамат, напісаных на жывой усходнеславянскай мове, праяўляе вялікую разнастайнасць паводле асобных рэгіёнаў усходнеславянскай моўнай тэрыторыі. Аднак дакументы, напісаныя ў XII—XIV стст. у Кіеве, Ноўгарадзе, на Валыні, у Маскве, Полацку ці ў Смаленску, выяўляюць здзіўляючае падабенства ў сваім фармуляры: яны пачынаюцца словамі *Се азъ* або *а се азъ (язъ, я).* Вучоныя прыйшлі да высновы, што гэты фармуляр, які стаў паўсюдным у Старажытнай Русі, узыходзіць да аналагічных фармуляраў візантыйскіх прыватных грамат, напісаных на народнай грэчаскай мове з захаваннем некаторых кніжных выразаў у іх. Ва ўсходнеславянскіх граматах такія выразы перадаваліся па-царкоўнаславянску.

Хаця мова ўсходнеславянскіх грамат лепш за іншыя помнікі пісьменства адлюстроўвае дыялектнае чляненне ўсходнеславянскай моўнай тэрыторыі ў XII—XIV стст., аднак развіццё адміністрацыйнай мовы ў гэты перыяд праходзіла не па лініі беларуска-ўкраінска-рускай траічнасці, але ў адпаведнасці з аб'яднаннем усходнеславянскіх зямель у два вялікія дзяржаўныя аб'яднанні — у Вялікае княства Літоўскае і ў Маскоўскую дзяржаву, і ў канцы XV ст. прывяло да ўтварэння дзвюх усходнеславянскіх дзяржаўных моў: старабеларуска-ўкраінскай, або, як яе яшчэ называюць, заходнярускай мовы, і велікарускай (маскоўскай) мовы.

У аснову заходнярускай дзелавой мовы быў пакладзены галіцка-валынскі дыялект. Тут працягваліся традыцыі дзелавога пісьменства, атрыманыя ў спадчыну з кіеўскага перыяду. Але частыя кантакты Галіцка-Валынскага княства з заходнімі суседзямі прывялі да неабходнасці ўзнікнення пры двары князя і лацінскай канцылярыі. Пасля далучэння Галіцкай Русі да Польшчы ў 1349 г. мовай княжацкай канцылярыі побач з заходнярускай становіцца і лацінская. Такая сітуацыя не магла не адбіцца і на мове фармуляра заходнярускіх грамат. І вось у першай рускай грамаце 1349 г. Казіміра III, дзе захоўваецца старажытнаўсходнеславянскі фармуляр, сустракаецца слова *господарь (А се я король казимиръ краковськии и куявьскии и господарь Рускоѣ землѣ далъ есмь слузѣ своему иванови дворище),* якому ў лацінскіх дакументах адпавядае слова *dominus* 'уладар' у выразе «dominus terra Russiae» (1320 г.).

Калі ў 1386 г. вялікі літоўскі князь Ягайла, ажаніўшыся з польскай каралеўнай Ядвігай, стаў каралём Польшчы, у аснову літоўскай велікакняжацкай канцылярыі была пакладзена заходнаруская канцылярыя пры польскім каралеўскім двары. За каралём (вялікім князем) замацоўваецца тытул *господарь.* У гэты ж перыяд слова пранікае і ў малдаўскую канцылярыю — спачатку як тытул Ягайлы, а пазней як тытулы еўрапейскіх манархаў (параўнай панегірык Вітаўту каля 1430 г.).

На працягу XV ст. адбываецца паступовае перамяшчэнне дыялектнай асновы мовы канцылярыі: калі пры Ягайле ў велікакняжацкіх дакументах яшчэ адчувальнымі былі ўкраінскія моўныя рысы, дык пры Казіміры IV (1440—1492) прыкметна ўзрастае колькасць грамат, напісаных беларускімі пісцамі . Такім чынам, афіцыйнай мовай ВКЛ стала старабеларуская, у пэўнай ступені мова штучная, якая была наддыялектнай з'явай, дзякуючы чаму яна магла абслугоўваць спачатку толькі дзелавыя, а потым, у XVI—XVII стст. таксама літаратурныя і нават культавыя патрэбы беларускага і ўкраінскага насельніцтва Рэчы Паспалітай. На аснове гэтай мовы ўзнікла т. зв. «простая мова».

Усе ўсходнеславянскія землі па-за межамі ВКЛ і Польшчы і часткова Малдавіі і Венгрыі былі ў канцы XV пач. XVI стст. аб'яднаны Вялікім княствам Маскоўскім. Канцылярская мова яго паступова выцесніла мясцовыя канцылярскія мовы (напрыклад, наўгародскую). У гэты перыяд абедзве ўсходнеславянскія пісьмовыя мовы яшчэ не ўспрымаліся, як розныя, і пры дыпламатычных зносінах Польшчы з Масковіяй нават у XVII ст. выкарыстоўвалася старабеларуская мова. Яна была таксама і мовай зносін маскоўскай дыпламатыі з Захадам. Гэтыя зносіны спрыялі таму, што маскоўская руская мова засвойвала з заходнярускай шматлікія запазычанні, у тым ліку і лексему *господарь,* якая, з'яўляючыся праславянскай толькі ў значэнні 'гаспадар', 'уладальнік', пранікла ў Маскоўскую Русь з ВКЛ у I палове XV ст. як велікакняжацкі (каралеўскі) тытул *(господарь всея Роусі).* Гэты тытул успрымаўся як больш высокі, чым *брат старейший* або *господинъ* (якое паходзіць са старабалгарскай мовы). Хаця ў XV ст. у Масковіі сустракаюцца выпадкі, калі духоўныя асобы таксама называюць сябе *господарями* ці *осподарями,* пазней слова *господарь,* якое трансфармавалася ў *государь,* стала асацыіравацца са свецкай уладай.

У беларускай мове ў слове *господаръ* таксама адбываліся пэўныя змены: пачатковае **г-** успрымалася як прыстаўное і адпала, даючы *осподаръ* (як у Грамаце 1386 г.), **о-** адпала, як і ў іншых словах, напрыклад: *агарод — гарод, агуркі — гуркі,* а *сподаръ* набыло, апрача вядомых значэнняў 'гаспадар', 'уладальнік', яшчэ 'глава сям'і', 'бог', 'уладар, высокая асоба', а таксама стала ўжывацца як форма ветлівага звароту да мужчыны, *спадарыня* — у адносінах да жанчыны, *спадарства* — да жанчын і мужчын разам, *спадарычна* — да дзяўчыны (больш падрабязна пра гэта гл. артыкул І. Крамко «Успомнім сябе, спадары» ў «ЛіМе», 22.XI.1991 і «Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразеалагічны...» Я. Станкевіча, Мн., 1992).

Што ж датычыць этымалогіі слова *гаспадар,* то яно паходзіць з праславянскага gospo*d*a 'гаспадарка', якое з'яўляецца зборным назоўнікам ад gospodь. Апошняе складаецца з дзвюх іменных асноў: першая з іх працягваецца ў аснове *g*h*ost — 'госць', а другая адносіцца да індаеўрапейскай асновы *pot -s 'гаспадар'. Разам gospo*d*ь адпавядае лацінскаму назоўніку ў родным склоне *h*ospitis 'гасцінны гаспадар'. У праславянскай мове слова gospo*d*ь набыло значэнні 'гаспадар, спадар, Госпад Бог'.

**І. І. Лучыц-Федарэц,**
**старшы навуковы**
**супрацоўнік Інстытута**
**мовазнаўства імя Якуба Коласа**
**АН Беларусі.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—32.*

### Калі пасяліліся на Беларусі габраі?

Габраі ўпершыню з'явіліся ў нашым краі яшчэ за часам князя Усяслава. Пазней, у XIV стагоддзі, калі ў Заходняй Еўропе (Нямеччыне, Гішпаніі ды інш.) пачаўся масавы пераслед габраяў, яны знаходзілі прытулак у Вялікім Княстве Літоўскім — краіне, дзе даволі талерантна ставіліся да людзей рознай веры. Іх першыя супольні ўзніклі тут пры канцы XIV стагоддзя ў Берасці і Горадні. З другой паловы XVI стагоддзя, пасля інтэнсіўнай міграцыі з Нямеччыны і Польшчы, габраі пачалі займаць прыкметнае месца ў этнічнай структуры насельніцтва Беларусі.

Пасля анексіі Расеяй нашы землі ўвайшлі ў гэтак званую «мяжу аселасці», па-за якой царскі ўрад у 1794 годзе забараніў габраям сяліцца. Напярэдадні першай сусветнай вайны яны складалі блізу 14% усяго насельніцтва Беларусі. Бальшыня іх жыла ў гарадах і мястэчках (нярэдка іх было тут да 50—60%).

Беларускія габраі займаліся рамёствамі, гандлем, дробным прадпрымальніцтвам, ліхвярствам. Яны жылі замкнёнымі тэрытарыяльнымі супольнямі — кагаламі. Пасля скасавання ў сярэдзіне мінулага стагоддзя кагальнай сістэмы шмат хто з іх пачаў адмаўляцца ад традыцыяў свайго этнасу, засвойваць дасягненні еўрапейскай культуры. У гэтым часе ўзнікла новая габрайская літаратура на мове ідыш (што зазнала, дарэчы, прыкметны ўплыў беларускай мовы).

У 20-я гады XX стагоддзя гэтая мова была адной з чатырох дзяржаўных моваў БССР. На ідыш выходзілі часопісы і газеты, былі габрайскія аддзелы ў Інстытуце беларускай культуры і Беларускай Акадэміі навук, у музеях, працавалі тэатры, навучальныя ўстановы.

Падчас другой сусветнай вайны ў выніку фашысцкага генацыду загінула 300 тысяч беларускіх габраяў. Калі ў 1926 годзе яны складалі 8,2% насельніцтва БССР, дык у 1959 годзе — толькі 1,8 %. Паводле перапісу 1989 года, у Беларусі налічвалася 112 тысяч габраяў, або трохі болей за 1 %. Апошнім часам павялічылася колькасць габраяў, што эмігруюць з Рэспублікі Беларусь у Ізраіль, ЗША ды іншыя краіны.

Беларускія габраі далі свету выдатных вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, дзяржаўных дзеячаў. Сярод іх — філосаф Саламон Майман (Хейман), гравёр Гершка Ляйбовіч, класік габрайскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорым, стваральнік мовы эсперанта Людвік Заменгаф, мастак Марк Шагал, класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік), фізік-тэарэтык Якаў Зяльдовіч, скульптар Заір Азгур, пісьменнік-фантаст Айзек Азімаў, першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман, фізіка-хімік Віталь Гальданскі.

**Эмануіл ІОФЕ.**

### Хто такі Казімір Ягайлавіч?

З 1440 да 1492 года вялікакняскі пасад займаў Казімір Ягайлавіч (1427—1492), які з 1447 года быў адначасова і каралём польскім. Пасля гібелі ў бітве з туркамі пад Варнай (1444 год) ягонага брата Уладзіслава Казімір стаў адзіным прадаўжальнікам дынастыі Ягайлавічаў.

Час Казіміра — гэта час эвалюцыі дзяржаўнага ладу Вялікага Княства ад неабмежаванай манархіі ўзору Вітаўта да манархіі парламенцкага тыпу. Менавіта пры ім узмацняецца роля Рады ў кіраванні дзяржавай. Паны-рада практычна ажыццяўлялі ўладу, калі віленскі пасад заняў 13-гадовы князь. Рада выступала таксама як найвышэйшы выканаўчы орган і ў часе працяглых ад'ездаў гаспадара з Княства пасля таго, як ён атрымаў польскую карону. Да заслугаў Казіміра трэба аднесці яго заканатворчую дзейнасць. Пры ім у 1468 годзе быў створаны Судзебнік, які стаў першай спробай кадыфікацыі беларускага права.

У вонкавай палітыцы Казімір імкнуўся да захавання тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы: у 1444 годзе забраў у Польшчы захопленую ёю раней Дарагічынскую зямлю, захаваў у складзе Вялікага Княства Валынь, якой дамагаліся палякі.

Гэты гаспадар змог даволі працяглы час забяспечваць мірнае развіццё краіны. Але сродкі забяспечання былі не заўсёды прымальныя і перспектыўныя для магутнасці і ўплывовасці Вялікага Княства. Калі ў выніку вайны з Тэўтонскім Ордэнам (1456—1466 гады) гэты адвечны супернік быў канчаткова разбіты і перайшоў у васальную залежнасць, то на ўсходзе — супраць маладой Маскоўскай дзяржавы і Крымскага ханства — наш манарх дзейнічаў нерашуча. Паводле дамовы 1449 года паміж Казімірам і Васілём ІІ Вялікае Княства адмаўлялася ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі і Пскоў. Масква ж пасля вызвалення ад мангола-татарскага іга набірала агрэсіўную актыўнасць у заходнім кірунку. Вынікам гэтай актыўнасці сталася змова ў Кіеве супраць Казіміра, выкрытая ў 1481 годзе.

Закончыў жыццё Казімір Ягайлавіч у Горадні ў 1492 годзе. Пахаваны ў Кракаве ў капліцы Святога Крыжа.

**Павел ЛОЙКА.**

### Што такое Магдэбургскае права?

У часы Сярэднявечча беларускія гарады былі цэнтрамі рамяства, гандлю, культуры, адміністрацыі ды абарончымі збудаваннямі. У XIV — XVI стагоддзях многія з іх атрымалі права на самакіраванне, гэтак званае магдэбургскае, або майдэборскае, права (ад назову нямецкага горада Магдэбург, які здаўна жыў паводле самакіравання).

Прывілеі на самакіраванне, што выдаваліся за подпісам вялікага князя, ні ў якім разе не супярэчылі традыцыйнаму мясцоваму праву, а пазней — беларускім агульназемскім законам, і тым больш не адмянялі іх. Яны толькі пашыралі і паглыблялі старасвецкае звычаёвае права, а з часам і агульнадзяржаўнае заканадаўства, улічваючы менавіта спецыфіку гарадскога жыцця. Такім чынам, магдэбургскае права было па сутнасці толькі своеасаблівым адгалінаваннем тагачасных законаў Вялікага Княства. А паколькі не ўсе нашыя гарады жылі паводле самакіравання, то магдэбургскае права можна назваць яшчэ й адметным накірункам тагачаснага беларускага гарадскога права.

Першымі ў Беларусі магдэбургскае права ўвялі Вільня (1387 год) і Берасце (1390 год). Пазней, у XV — XVI стагоддзях яго дасталі жыхары Горадні, Слуцка, Полацка, Менска, Новагародка, Слоніма, Магілёва, Пінска ды інш.

Згодна з прывілеем на магдэбургскае права ў горадзе ствараліся органы самакіравання, незалежныя ад ваяводаў і старастаў. Гарадское кіраванне ўзначальваў *войт*, прызначаны вялікім князем. Разам з ім дзейнічала гарадская *рада*, што складалася з 12—20 мяшчанаў-радцаў. Існаваў судовы орган па крымінальных справах — *лава*, куды ўваходзілі лаўнікі пад старшынствам войта. Штодзённымі справамі займаліся *бурмістры*, выбраныя гарадскою радай. Гарадская рада і лава разам складалі *магістрат*.

Мяшчане вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцяў — нарыхтоўка сена, выдзяленне фурманак і інш., якія яны неслі дагэтуль разам з сялянамі воласці, ад суда і ўлады дзяржаўных службовых асобаў. Прадугледжваліся і пэўныя гандлёвыя льготы. Так, мяшчане Вільні, Полацка і некаторых іншых гарадоў з магдэбургскім правам вызваляліся ад мыта на тэрыторыі ўсяго Вялікага Княства. Гарады з магдэбургскім правам — Менск, Полацак, Зэльва, у адрозненне ад звычайных гарадоў, мелі права двойчы на год праводзіць міжнародныя кірмашы, прычым прыезджыя купцы (а яны, дарэчы, былі з усяе Еўропы) мусілі прадаваць тавар толькі оптам, ад чаго горад меў значную выгаду.

Гаспадар і ўрад Вялікага Княства ўсяляк заахвочвалі гарады да самакіравання, бо былі непасрэдна зацікаўленыя ва ўмацаванні іх эканамічнага становішча: чым багацейшы быў горад, тым болей падаткаў ён уносіў у дзяржаўную скарбонку. Апрача таго, жыхары гарадоў з магдэбургіяй узамен на палітычныя і грамадзянскія свабоды ўскладалі на сябе дадатковыя абавязкі, у прыватнасці рамантаваць і паднаўляць за свой кошт абарончыя ўмацаванні.

Магдэбургскае права праіснавала ў нас да канца XVIII стагоддзя і было зліквідаванае пасля анексіі Беларусі Расейскай імперыяй.

**Язэп ЮХО.**

*Працяг будзе.*

***Чыталі?***

## «Пра герб і сцяг»

**Даўно выказвалася слушная думка пра тое, што дзіцячую літаратуру неабходна выпускаць не толькі «Юнацтву», а і «дарослым» выдавецтвам. Праўда, размовы гэтыя доўгі час заставаліся толькі размовамі. Але зараз справа, здаецца, скранулася з месца. Выдавецтва «Беларусь» выпусціла невялікага памеру кнігу Вінцука Вячоркі «Пра герб і сцяг», адрасаваную дашкольнікам і малодшым школьнікам.**

**У папулярнай і даходлівай форме аўтар распавядае дзецям пра галоўныя дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь — наш герб і сцяг. Разам з В. Вячоркам юны чытач зробіць захапляльнае падарожжа ў гісторыю ўзнікнення бел-чырвона-белага сцяга і старажытнага герба «Пагоня», аб якой Максім Багдановіч выказаўся, як ніхто, глыбока і пранікнёна:**

**Усё лятуць і лятуць тыя коні,**
**Срэбнай збруяй далёка грымяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!**

**Разам з гэтымі неўміручымі словамі класіка аўтар кнігі прыводзіць і другую вершаваную ілюстрацыю да тэмы гаворкі, а менавіта — радкі беларускага паэта Сержука Сокалава-Воюша:**

**І тады падняўся князь з зямлі,**
**Белыя павязкі зняў з чала,**
**Як штандар, яны ў руках былі,**
**Як праменні зыркага святла.**
**Кроў лягла чырвонай паласой**
**Цераз палатна сляпучы снег —**
**І схапіўся зноў за зброю вой,**
**І чужак заснуў у кургане.**

**Так, нашы дзяржаўныя сімвалы нараджаліся ў барацьбе за волю, за незалежнасць. І за бел-чырвона-белым сцягам, і за гербам «Пагоня» — пакутлівыя лёсы цэлых пакаленняў нашых прашчураў. Выхаваць у дзяцей святую павагу да сцяга і герба роднай Бацькаўшчыны — вось задача, з якой узяўся за стварэнне кніжкі Вінцук Вячорка. І з клопатам гэтым, на мой погляд, выдатна справіўся. А добрыя памагатыя Вінцука Вячоркі — мастакі Пятро Драчоў (ён выконваў малюнкі да кнігі «Пра герб і сцяг») і Яўген Кулік, які рэканструяваў у малюнках паасобныя гістарычныя сімвалы.**

**Праца «Пра герб і сцяг» выдадзена накладам у 90 000 паасобнікаў. Яна магла б стаць пачаткам цэлага серыялу кароткіх, даступных для дзяцей навукова-папулярных кніг. Чаму б, да прыкладу, не выдаць кніжачку пра беларускае войска? Ды ці мала іншых, не менш актуальных тэм, якія ў бліжэйшы час трэба на роднай мове засвоіць маладому пакаленню беларускіх грамадзян.**

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**БАЛЦКІЯ МОВЫ.** Вучоныя лічаць, што да гэтай групы індаеўрапейскіх моў належаць летувіская, латышская ды старажытнапруская, ятвяжская, куршская. Тры апошнія — мёртвыя мовы, бо на іх ужо ніхто не гаворыць. Праблема балцкіх моў вельмі складаная, да таго ж заблытаная мовазнаўцамі і гісторыкамі. Прыкладам, летувіскую (у навуковым свеце прынята яе называць літоўскай) мову большасць вучоных лічаць самай старажытнай, прынамсі, у балта-славянскай сям'і індаеўрапейскіх моў. І пацвярджаюць гэта рознымі асаблівасцямі летувіскай мовы.

Варта звярнуць увагу на меркаванне вядомага польскага вучонага Аляксандра Бруннера: «Старажытнасць летувіскай мовы, на якую ўсе заўсёды спасылаюцца, хутчэй уяўная і выпадковая, чым сапраўдная; пераважае ў захаванні некаторых дыфтонгаў: *ау*, *оі*, і канцавога *с*, якое маюць лацінская ці грэцкая мовы; апроч гэтай рысы, любая славянская гаворка амаль такая ж «старая», як і летувіская мова, а часам і старэй, прыкладам, у спражэннях дзеясловаў». Не пагаджаецца А. Брукнер і з меркаваннем, што летувісы — адзін з найстарэйшых еўрапейскіх народаў: «...выйшлі яны разам з славянамі, германцамі, кельтамі, italійцамі і грэкамі з аднаго ствала і роду, а таму не старэй і не маладзей за іншых. Пра ўмоўны век народаў вырашае хіба чарговасць іх з'яўлення ў еўрапейскай гісторыі, а ў такім выпадку летувісы будуць, бадай, наймаладзейшымі».

Так пісаў А. Брукнер яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Але і сёння ідзе гаворка пра «вельмі старажытныя рысы» балцкіх моў, пра іх «значна большае распаўсюджанне... далёка за межамі сучасных Літвы і Латвіі». На падставе такіх уяўленняў і даводзілася, што старажытныя літоўцы панавалі на землях паміж Бугам і Дняпром, захапілі беларускія княствы і нават цяпер лічаць шмат якія беларускія гарады і замкі сваімі ды прызначаюць грошы на іх рэстаўрацыю.

А нашы мовазнаўцы перакананы: «На беларускай тэрыторыі надзвычай поўна прадстаўлена гідраніміка балтыйскага паходжання... тут жылі ўсходнія балты, блізкароднасныя літоўцам, але са сваімі дыялектнымі асаблівасцямі, што дае падставу лічыць іх мову асобнай усходнебалтыйскай». Не падаецца, вядома, якія плямёны былі яе носьбітамі: ці міфічныя аўкштайты з прыдуманай зусім нядаўна Аўкштайціі, ці рэальныя селы з забытай Селоніі? І зразумела, чаму. Сцвярджаецца ж: «Існуюць рысы, якія адрозніваюць усходнебалтыйскія мовы (літоўскую і латышскую) ад заходнебалтыйскіх (прускай)».

Калі такая блытаніна будзе выпраўлена, то, сапраўды, балцкія мовы, і жывыя, і мёртвыя, дапамогуць «даследчыкам вырашыць пытанні паходжання славян», і ў першую чаргу пытанні этнагенезу беларусаў.

З. С.




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Зіхоткім метэорам пранёсся па небасхіле еўрапейскай паэзіі выдатны пясняр Венгрыі Шандар Петэфі (1823—1849).

*Шандар ПЕТЭФІ*

* * *

Не разумею: што са мною,
Чаму адданы ёй адной
І гэта пачуццё зямное
Ёй прысвячаю, незямной?

Яе, выгнанніцу-свабоду,
Люблю бязмежна. Без яе
І мне, пылінцы, і народу
Імкнення ўперад нестае.

Пакуль што ў снах сваю каханку
Штодня галублю, нелюдзім.
Мінулай ноччу на палянку
З ёй, пуцяводнай, прыблудзіў.

Усю душу сваю дазвання
Адкрыў багіні грэшны сын
І ўжо хацеў да развітання
Сарваць ёй кветку на ўспамін,

Але з засады ятаганам
Па-свойму кат рашыў мой лёс —
Сцяў галаву. І я каханай,
Укленчыўшы, яе паднёс.

## У канцы верасня

Яшчэ адцвітаюць асеннія кветы,
Зялёны ў даліне стаіць вербалоз.
Але ўжо зімы заўважаю прыкметы —
Гары верхавіна заснежана скрозь.
А ў сэрцы маім яшчэ поўна надзеяў,
Вясновай і летняй гарачай красы,
Ды холад дачасна аднекуль павеяў
І снегам абсыпаў мае валасы.

Завялі ўжо кветкі, канае жывое.
Дык, жонка мая, на калені мне сядзь.
Хінешся да сэрца майго галавою,
Ці будзеш ты заўтра над трупам рыдаць?
Напэўна, раней я памру, дык ці будзеш
Стаяць ля труны, у жалобе нямой?
А можа, другога сустрэўшы, забудзеш,
І ўжо небыццё паглыне воблік мой.

Калі не захочаш насіць ты жалобу,
На крыж пакладзі твой заплаканы крэп.
Я выйду з труны сваёй з гэтай нагоды
І ноччу патайна вазьму яго ў склеп.
Я слёзы ім вытру, бінтамі ён будзе,
Каб раны сардэчныя перавязаць.
Бо наша каханне нішто не астудзіць,
І там цябе буду, ў магіле, кахаць.

**Пераклад з венгерскай**
**Міколы ХВЕДАРОВІЧА.**

*Маладыя таленты Беларусі*

# МЯНЕ ВЫРАТАВАЛА БЕЛАРУСКАЯ МОВА

***У адным з інтэрнатаў Менска жыве сям'я мастакоў Алега Карповіча і Алены Карповіч. У іх расце сын, які, відаць, таксама будзе мастаком, бо даўно і добра малюе і вучыцца ў мастацкім ліцэі. Алег — беларус, Алена — руская, родам з Тульскай вобласці, але ў іх сям'і гучыць адна мова — беларуская. Наш карэспандэнт сустрэўся з Алегам Карповічам, з якім і прапануецца гутарка.***



**— Алег, як пачаўся твой творчы шлях?**

—Вельмі звычайна. З першага малюнка. А маляваць я пачаў, здаецца, з самага нараджэння. Вучыўся ў звычайнай сярэдняй школе. Праўда, мог вучыцца ў Менску ў школе-інтэрнаце імя Ахрэмчыка, але адтуль збег — напалохаўся «джынсавых» хлопцаў, якіх у родным Слоніме амаль і не было. Пасля 8 класаў слонімскай школы паступіў у мастацкае вучылішча, якое скончыў у 1979 годзе і адразу пайшоў у БТМІ на аддзяленне графікі.

**— Адкуль так добра ведаеш беларускую мову? Няўжо ў школе вучыў?**

— У школе, на жаль, беларускую мову не вывучаў, як і большасць маіх аднагодкаў, хаця і быў такі прадмет, недзе дзве гадзіны ў тыдзень. Па-беларуску загаварыў у інстытуце, бо мае сябры гаварылі на роднай мове. Дзякуючы ім, я не толькі дасканала авалодаў беларускай мовай, але разам з імі вандраваў па гістарычных мясцінах Беларусі, чытаў кнігі, у якіх была праўда.

**— Я ведаю, што твая дыпломная работа называлася «Хлеб партызанскі». Чаму іменна «Хлеб партызанскі»?**

— Так ужо здарылася. Праўда, хоць і рабіў дыплом на гэтую тэму сцяўшы зубы, бо хацелася іншай, але ж зрабіў на «пяцёрку».

**— Што было пасля інстытута?**

— Пасля інстытута атрымалася, як і ў большасці выпускнікоў: ні працы, ні кватэры, ні нават прапіскі. У той час самым лепшым выйсцем з майго становішча было войска, куды я і пайшоў служыць. Днямі быў савецкім салдатам, а начамі беларускім мастаком. Рабіў ілюстрацыі для часопісаў «Маладосць», «Вожык», газеты «Звязда». Мастацкія рэдактары гэтых выданняў падтрымлівалі матэрыяльна маю сям'ю — жонка з малым сынам жылі ў Менску.

**— Як склалася тваё жыццё пасля войска?**

— Нейкі час лічыўся беспрацоўным, бо нікому не быў патрэбен мой чырвоны дыплом. Мяне нават ні адзін кінатэатр не браў афарміцелем. Ад далейшага беспрацоўя выратавала веданне беларускай мовы. У часопісе «На экранах Беларусі» быў патрэбен мастацкі рэдактар з дасканалым валоданнем беларускай мовы. Галоўны рэдактар часопіса Мікалай Каралевіч не паглядзеў, што ў мяне няма менскай прапіскі, і ўзяў на працу. Я там прапрацаваў тры гады. У мяне ў рэдакцыі быў свой куток, дзе можна было маляваць работы для выстаў і афармляць кніжкі. Яшчэ ў інстытуце я ўдзельнічаў у рэспубліканскіх і міжнародных выставах. Так, у 1988 годзе атрымаў прыз «Графія» міжнароднага цэнтра экслібрыса ў Бельгіі. Удзельнічаў у конкурсе плакатаў у Асвенцыме. Мае студэнцкія работы аб'ездзілі Берлін, Варшаву, Санкт-Пецярбург, Кіеў і іншыя гарады.

**— Як атрымалася, што ты з такой нядрэннай працы пайшоў у «Пралеску»?**

— У 1991 годзе быў заснаваны часопіс «Пралеска» і мяне галоўны рэдактар Алесь Сачанка запрасіў на пасаду мастацкага рэдактара. Я згадзіўся. Новы часопіс мы пачыналі з нуля: з вынасу смецця з памяшканняў і авалодання камп'ютэрамі. Працуючы ў «Пралесцы», я ўпершыню адчуў, што казённая праца мастацкага рэдактара можа быць творчай, бо А. Сачанка — першы мной сустрэты рэдактар выдання, які дазваляе вольна думаць і працаваць па натхненню. За год існавання мы «ўмудрыліся» заняць другое месца па мастацкім афармленні сярод беларускіх выданняў.

**— А хто ж першае?**

— «Работніца і сялянка».

**— Ваш часопіс заняў другое месца, а што гэта значыць?**

— Тое, што ў «Пралесцы» ёсць свой твар, і даволі прывабны. Непрыгожы твар ніхто не будзе выстаўляць на віднае месца. На вітрыны трапляюць часопісы «Беларусь», «Бярозка», «Я+Я». Гэтыя выданні з'яўляюцца тварам беларускай прэсы. Праўда, у параўнанні з замежнымі нашы часопісы выглядаюць блякла і напаўпрафесіянальна.

**— Чаму?**

— Паўтару чужую думку, з якой я не згодны: «У нас няма добрай паперы, друку, фарбаў». А як жа Францішак Скарына дзвюма фарбамі друкаваў свае кнігі, якія і сёння з'яўляюцца ўзорам прыгажосці? Чаму так мала чытаюць на беларускай мове? Але чаму чыталі лістоўкі ў час вайны? Усё залежыць ад інфармацыі. Працаваць можна і на нашай паперы. Як мастацкі рэдактар бачу, куды нас вядзе «камп'ютэрызацыя» набору і вёрсткі, калі гэтым займаюцца выпадковыя людзі. І калі пяць гадоў назад беларускія газеты былі самымі прыгожымі ў былым Саюзе, то цяпер... І пакуль некаторыя філолагі спрачаюцца, пераходзіць ці не пераходзіць на лацінку, то са з'яўленнем камп'ютэраў нашы газеты і часопісы ўжо на яе перайшлі. Мы друкуем на камп'ютэрах з самай звычайнай лацінкай, падробленай пад кірыліцу, таму і не вельмі прыгожая вёрстка, і наша галава не ўспрымае такія шрыфты. Мы пайшлі па найлягчэйшым шляху. Замест таго каб распрацаваць свае шрыфты для камп'ютэраў, перарабілі некаторыя літары з замежных. Калі ж мы незалежная дзяржава, то мы павінны мець свае гарнітуры шрыфтоў. Немец думае панямецку і ён зробіць шрыфт нямецкі, а для беларусаў павінен рабіць беларус. Да ўсяго ж, яшчэ і карыстаемся замежнымі праграмамі, таму непазбежна будуць самыя звычайныя граматычныя памылкі ў тэкстах.

**— Дык ты лічыш, што камп'ютэры не вельмі нам дапамагаюць?**

— Пакуль што так. Да ўсяго, у нас такія камп'ютэры, на якіх нельга выконваць работу мастацкага рэдактара. Цяпер выдаецца столькі газет і часопісаў, якія ляжаць мёртвым грузам у кіёсках, што само ўзнікае пытанне: «Нашто траціць столькі паперы, фарбы, людской энергіі, часу, калі адначасова многія даюць адну і тую ж інфармацыю?» І ўлічваючы, што ўсе гэтыя газеты на дзяржаўнай датацыі, то, відаць, прыйшла пара аб'яднацца ў адзін вялікі штодзённік, які быў бы патрэбны кожнай сям'і.

**— Тады і «Наша слова» не патрэбна?**

— «Наша слова» — спецыфічная асветніцкая газета, і, на маю думку, яе і не хапала доўгі час беларусам. Яна — орган Таварыства беларускай мовы, а не выданне Саўміна ці Вярхоўнага Савета, у якіх не адна газета і не адзін часопіс. «Наша слова» павінна застацца і нават, магчыма, выходзіць большым памерам. Асвета заўсёды патрэбна.

**— А як ты адносішся да рускамоўных выданняў?**

— На маю думку, хоць яны і рускамоўныя, але калі там працуюць беларусы і склад мыслення ў іх беларускі, то як бы яны ні стараліся, рускімі яны ніколі не будуць.

**— Як у сям'і справы з беларускай мовай?**

— Жонка выкладае ў беларускамоўным мастацкім ліцэі, там жа вучыцца і сын. Так што Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў маёй сям'і вырашаны.

**Распытваў В. ШНІП.**





# « Славянскі базар »

Напрыканцы ліпеня ў Віцебску адбыўся II Міжнародны музычны фестываль «Славянскі базар».

НА ЗДЫМКАХ: святочна было ў фестывальныя дні на вуліцах Віцебска; дыпламант фестывалю, саліст з Беларусі Зміцер Смольскі.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА. БЕЛІНФАРМ.**




**Д. ДЖАРВІС: Высокі крывяны ціск (гіпертанія)**

ГІПЕРТАНІЯ — адна з найбольш сур'ёзных праблем медыцыны. Захворванне гэта, досыць звычайнае і распаўсюджанае, выклікае, аднак, вельмі цяжкі стан арганізма. Існуе пэўная залежнасць паміж крывяным ціскам і прыстасавальнасцю асобы да жыццёвага асяроддзя. Калі чалавек не канфліктуе з акружэннем, ён бадзёры і энергічны, яму спадарожнічае поспех. Калі ж ён не можа доўга прыстасавацца, скажам так, да аб'ектыўнай рэальнасці, то наступаюць парушэнні функцый арганізма, і адной з праяў адмоўнага ўплыву жыццёвых абставін на стан здароўя можа стаць гіпертанія. Заўважым, што гэта немач часта спадарожнічае іншым — хваробе сэрца або нырак, што стварае рэальную пагрозу жыццю чалавека.

Пытанне аб тым, з'яўляецца гіпертанія самастойным захворваннем ці сімптомам іншай хваробы, неадназначнае. Калі прычына захворвання нам невядома, мы разглядаем гіпертанію як самастойнае захворванне.

Людзей з высокім крывяным ціскам звычайна падзяляюць на дзве групы. Калі яго ўзнікненне не можа звязвацца з тым або іншым захворваннем, то яно класіфікуецца як **першасная гіпертанія.** Пры наяўнасці прычыны ўзнікнення высокага крывянога ціску скарыстоўваецца тэрмін **другасная гіпертанія.** У медыцынскай практыцы механізм хваробы тлумачыцца так: у арганізме чалавека вялікая нагрузка ў сістэме кровазвароту падае на дробныя крывяносныя сасуды. На ранняй стадыі гіпертаніі адбываецца папераменнае сціскание сасудаў. У часе сну крывяны ціск прыходзіць да нормы, паколькі сціскание сасудаў памяншаецца. Аднак у многіх выпадках, асабліва ў пажылым узросце, сасуды страчваюць здольнасць аднаўляць нармальную напятасць у часе сну: спазм працягваецца, і крывяны ціск не вяртаецца да нормы. Звужэнне сасудаў пры высокім крывяным ціску тлумачыцца дваяка. Па-першае, цыркуляцыяй у крыві хімічных рэчываў, якія выклікаюць звужэнне сасудаў, па-другое, настройкай арганізма на песімістычны лад, што залежыць ад сімпатычнай нервовай сістэмы, а гэта выклікае масавае сціскание сасудаў.

Назіраючы за пацыентамі, медыкі зрабілі выснову, што ў большасці выпадкаў прычынай захворвання гіпертаніяй з'яўляюцца індывідуальныя асаблівасці характару чалавека. Большасць пацыентаў-гіпертонікаў — гэта актыўныя валявыя людзі, якія імкнуцца зрабіць як мага больш за кароткі тэрмін. Іх можна параўнаць са скакунамі. Пры ўважлівым вывучэнні гісторыі іх хваробы выяўлялася, што гіпертанія ў іх не спадчынная, а абумоўлена з першых дзён жыцця асаблівасцямі індывідуальнага развіцця. Доўга назіраючы за гіпертонікамі, прыходзіш да высновы, што гэта не фізіялагічная канстанта (пастаянная велічыня.— Рэд.), а стан арганізма, які мяняецца з дня ў дзень у залежнасці ад надвор'я, у адпаведнасці з фізіялагічнай актыўнасцю, харчаваннем, нервовым напружаннем, адчуваннем болю, адпачынкам і г. д.

Асаблівы ўплыў на стан хворага робіць надвор'е. У халодную пару года назіраецца найбольш высокі крывяны ціск, у летнюю спёку — найбольш нізкі. Значна павышаецца ціск у хворага чалавека, калі ён хвалюецца. Калі ж чалавек спакойны, ціск падае.

# ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**18 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА**

18.05. «Спадчына». Тэлевізійны дакументальны фільм.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.45. НІКа.

**19 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
20.35. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
21.00. Панарама.
22.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
23.35. НІКа.

**20 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Метраном. Музычная праграма.
20.05. Роднае слова. Тэлечасопіс.
20.35. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
21.00. Панарама.
23.30. НІКа.

**21 ЖНІЎНЯ, СУБОТА**

10.00. Паказвае Віцебск. Мастацка-публіцыстычная праграма.
15.35. Паэтычная гасцёўня. Новыя вершы Петруся Макаля.
18.40. Шматгалоссе. Гісторыя, культура, быт народаў Беларусі.
21.00. Панарама.
23.55. НІКа.

**22 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

12.15. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.
19.20. Жыве ў сэрцы Беларусь. Знаёмства з патомкам старажытных беларускіх родаў А. Багдановічам.
20.00. Панарама.

***Пародыі***

*Валерый ШЫХАНЦОЎ*

## Не траві душу

*У клопатах штодзённых*
*вар'яцею,*
*А ты мяне чакаеш*
*і маўчыш...*

Уладзімір СЦЯПАН.

Зашмат я клопатаў займеў.
І вось, між іншым, заўважаю,
Што трохі нават звар'яцеў,
Як і чаму — пакуль не знаю.

А ты прыгнечана маўчыш
І плачаш кожны дзень употай.
Мяркуеш, пэўна, што лячыць
Адкладваць нельга ўжо на
потым.

Не трэба, не траві душу,
Са мной усё нармальна будзе.
Такое хутка напішу,
Што ашалеюць, веру, людзі.

## Слова

*Няма тых слоў*
*У слоўніку яшчэ,*
*Што з маіх вуснаў*
*Радасна злятаюць...*

Таіса МЕЛЬЧАНКА.

Я зноў пастаўлена прад
фактам—
Пісаць цяпер які разон?
Як прачытаў мой твор рэдактар,
Змяніўся рэзка ў твары ён.

І мне сказаў бездапаможна,
Што чуў ён шмат за многа год.
Маіх жа слоў мужык не кожны
Знайсці б у арсенале мог.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 284.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7197 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 16.08.1993 г. у 15 гадзін.